

**Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны**

№ 10 (кастрычнік), 2013

# Мяжа




## Праваабарончы цэнтр “Вясна” падвёў вынікі тыдня супраць смяротнага пакарання

(Старонка 12)

# ЗЬМЕСТ

## Бярозаўскія праваабаронцы не могуць заключыць дамову на пікет

Бярозаўскія праваабаронцы не ў стане заключыць дамову на абслугоўванне пікета 10 кастрычніка з Бярозаўскім РАУСам. Паводле пастановы Савета міністраў ад 2012 года, павінен звяртацца наконт дамовы раённы выканаўчы камітэт, дзе праваабаронцы зарэгістравалі заяву, кажа праваабаронца Сяржук Русецкі:

- Рашэнне Бярозаўскага раённага выканаўчага камітэта, прынятае ў 2012 годзе, не адпавядае пастанове Савета міністраў 2012 года. Верагодна, што ў пікеце на 10 кастрычніка нам зноў адмовяць з прычыны адсутнасці дамовы, а для суда будзе нагода чарговы раз разгледзець, каб у выніку раённы выканкам унёс змены ў сваё рашэнне.

Дамагчыся публічнага выказвання сваіх думак у неправавой дзяржаве, дзе працуюць непрафесіяналы з адсутнасцю сумлення, надзвычай складана, лічыць праваабаронца.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=18336#.UpOROedb-Cw*

## Уладзімір Малей: Я бег у футболцы з выявай Алеся Бяляцкага, бо ён адбывае незаконнае пакаранне



У Маларыце адбыўся 30 юбілейны марафон аматараў бегу на доўгія дыстанцыі. У марафоне прынялі ўдзел прадстаўнікі Украіны, Расеі, Казахстану. У ліку беларусаў у забегу на 10-кіламетровую дыстанцыю прыняў удзел праваабаронца Уладзімір Малей. Ён прысвяціў свой забег палітзняволенаму кіраўніку Праваабарончага цэнтру “Вясна” Алесю Бяляцкаму.

- Як і ў мінулым годзе, я бег у футболцы з выявай Алеся Бяляцкага і надпісам “Свабоду Алесю Бяляцкаму”. Даводзіцца так бегаць у гэтай футболцы, бо Алесь усё яшчэ адбывае незаконнае пакаранне ў папраўчай калоніі.

Уладзімір Малей цягам апошніх год кожны свой марафонскі забег прысвячае Бяляцкаму. У сваёй узроставай катэгорыі Малей заняў 3-е прызавое месца.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=18488#.UpOaPbVdXgg*

## У Беларусі павялічваецца колькасць праціўнікаў смяротнага пакарання

Колькасць жыхароў Беларусі, якія не падтрымліваюць выкарыстання смяротнага пакарання, паступова ўзрастае. Такія вынікі дало маштабнае сацыялагічнае апытанне, праведзенае ў красавіку-траўні 2013 года. Па ўсёй краіне апытана 1100 жыхароў ва ўзросце ад 18-ці да 75-ці гадоў.

Па словах аднаго з даследчыкаў гэтай праблемы, прадстаўніка маскоўскага офіса арганізацыі “Міжнародная турэмная рэформа” Сяргея Шымавалоса, хаця крыху больш 63-х працэнтаў апытаных у цэлым падтрымала смяротнае пакаранне, аднак альтэрнатыўныя меры пакарання таксама знаходзяць вялікую падтрымку:

- Мы ўпэўніліся, што няма адзінадушша і катэгарычнасці праціўнікаў і прыхільнікаў, што ўсё вельмі складана. Людзі, якія маюць альтэрнатыўныя ўяўленні пра пакаранні, яны складаюць нават большасць. Тыя, што маюць выбар: мараторый, прыпыненне, пажыццёвае пакаранне, у сукупнасці іх у Беларусі большасць.

Па словах Сяргея Шымавалоса, гэтыя дадзеныя абвяргаюць стэрэатыпы, быццам большасць насельніцтва Беларусі катэгарычна выступае супраць адмены смяротнага пакарання.

“Гэтага ўжо няма. Адносіны грамадства да гэтага пакарання ўскладняюцца і робяцца не такімі адназначнымі, як раней”, - кажа Сяргей Шымавалос.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=18535#.UpOaZ7VdXgg*

# Сёння - Сусветны дзень супраць смяротнага пакарання

10-га кастрычніка адзначаецца 11-ая гадавіна Сусветнага дня супраць смяротнага пакарання. Паўсюль у свеце міжнароднай грамадскасці нагадваюць пра абсурднасць і жорсткасць пакаранняў смерцю. Кожны з тых, хто выступае супраць такой формы пакарання злачынцаў, мае на гэта свае тлумачэнні ды аргументы.

Кажа гарадзенскі музыка Алесь Дзянісаў:

- Галоўны аргумент, які ў маёй галаве на першым месцы, гэта тое, што сённяшняя сістэма пакарання ў Беларусі мае шмат хібаў. Яскравы прыклад – Чыкаціла ці Міхасевіч, віцебскі маньяк. Было расстраляна некалькі чалавек, зусім бязвінных.

Беларуская спявачка і акторка Ганна Хітрык таксама праціўніца смяротнага пакарання, але з іншых прычынаў:

- Калі быць шчырай, не так даўно, гады тры таму, мне задалі пытанне: як я стаўлюся да смяротнага пакарання. Тады я пачала думаць. Я вельмі люблю людзей, я веру ў Бога. Я лічу, што чалавек не можа проста так вырашыць, што ён можа забіць іншага чалавека. Не нам вырашаць.

Сямёра беларускіх музыкаў узялі ўдзел у супольным праекце пад назвай “Апошні золак”, прысвечаным тэме змагання супраць смяротнага пакарання. Таксама Праваабарончы цэнтр “Вясна” падрыхтаваў адмысловую праграму “Рок за правы чалавека: Праваабаронцы і музыкі – разам за адмену смяротнай кары”, якую можна паслухаць на сайце "Вясны".

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=18615#.UpOazrVdXgg*

# У Бярозе вырашылі весці асветніцкую дзейнасць па адмене смяротнай кары

Сусветны дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання ў Бярозе быў адзначаны, нягледзячы на забарону правядзення ўладамі пікету. Мясцовымі праваабаронцамі была арганізавана сустрэча з неабыякавымі людзьмі. Падчас сустрэчы адбыўся

прагляд відэафільма “Смяротнае пакаранне: шлях у мінулае”.

Пасля гэтага кожны прысутны выказаў свае меркаванні адносна адмены смяротнага пакарання ў Беларусі:

- Я прынцыпова супраць смяротнага пакарання па адной простай прычыне, што чалавек мае ўласцівацасць памыляцца. А раз памылка магчымая, то нельга катэгарычна падыходзіць да гэтага пытання, што чалавек вінаваты.

- У нас з “бухты-барахты” усё робіцца… пакуль у нас судовая сістэма недасканалая, якое можа быць смяротнае пакаранне.

- Еўропа арыентуецца ў гэтым пытанні на хрысціянскія каштоўнасці, пакідае права судзіць Богу, а не чалавеку.

Актывісты ў Бярозе вырашылі весці сістэмную асветніцкую працу сярод насельніцтва на тэму неабходнасці адмены смяротнага пакарання ў Беларусі.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=18658#.UpOa4rVdXgg*

## На Бярозаўшчыне надалей шукаюць свіней

Раённая ветэрынарная служба не пакідае ў спакоі людзей з вёсак у пяцікіламетровай зоне ад дзвюх дзяржаўных невялікіх свінафермаў у Хойніках і Сашыцы. Нядаўна яны наведаліся ў вёску Кабакі з санкцыяй ад пракурора раёна дзеля агляду гаспадарскіх будынкаў Уладзіміра Федасевіча, кажа мясцовы актывіст Валер Білібуха:

- Прыехалі ветработнікі з участковым і прадстаўніком сельсавета. Прадаставілі санкцыю наператрус сельскагаспадарчых пабудоў Федасевіча Уладзіміра Мікалаевіча. У санкцыі напісана, што ў звязку з тым, што ў час агляду могуць быць выяўлены сляды адміністрацыйна-прававога парушэння. У хлявах знаходзяцца свінні. І нічога ў сельскагаспадарчых пабудовах яны не знайшлі.

Справа па знішчэнні свіней цягнецца яшчэ са жніўня. Аднак пастанова Бярозаўскага раённага выканкама пра гэта не была нідзе апублікаваная. Больш за тое, у Бярозаўскім раёне эпідэмія афрыканскай чумы абвешчана не была. Раён не адносіцца да небяспечных у гэтым пытанні зонаў.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19017#.UpOcUbVdXgg*



## Трэцяя гадавіна выбуху на “Пінскдрэве”: вінаваты не пакараны

Тры гады таму на прадпрыемстве “Пінскдрэў” у Пінску адбыўся выбух, у выніку якога загінула 14 чалавек і дзясяткі атрымалі раненні. Гэта адная з вялікіх трагедый у найноўшай гісторыі Беларусі. Па сённяшні дзень некаторыя пацярпелыя працягваюць курс лячэння.

Следства па выбуху скончылася ў сакавіку 2012 года. Вінаватымі прызналі тры асобы, якія непасрэдна адказвалі за тэхніку і бяспеку на прадпрыемстве. Родзічы загінуўшых з таго часу нязгодныя з такім рашэнням, бо лічаць вінаватым экс-дырэктара Ларана Арыніча, які хаваецца ад праваахоўных органаў Беларусі ў Заходняй Еўропе.

Маці загінулага Яўгена Рапуты, Людміла Уладзіміраўна, кажа, што беглы дырэктар павінен адказаць перад правасуддзем:

- Самы галоўны, хто вінаваты ў гэтай трагедыі, застаўся беспакараны. Усе ведаюць, што зараз ён у вышуку, хоць добра

ведаюць, што ён знаходзіцца ў Польшчы. І чамусьці ён - у вышуку. Як гэта разумець? Столькі загінула маладых! Каму наканавана было застацца, тыя засталіся: хто не выйшаў на працу, хто замяніўся. А каму наканавана было памерці, той загінуў.

Прычынаю выбуху прызнаны тэхнічны фактар, парушэнне бяспекі і эксплуатацыі. Штогод, 25-га кастрычніка, родзічы загінулых збіраюцца каля мемарыяльнай шыльды, якую ўсталявала адміністрацыя "Пінскдрэва" каля месца трагедыі ў гонар памяці працоўных.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19109#.UpOc3bVdXgg*

## Жыхароў Берасцейшчыны хвалюе ахова здароўя, адукацыя і малы памежны рух

Ахова здароўя, адукацыя, змена заканадаўства, малы памежны рух – гэта найбольш актуальныя пытанні для жыхароў Берасцейшчыны. У рамках кампаніі Народнага рэферэндуму было апытана каля тысячы грамадзянаў. Асноўныя пытанні, агучаныя людзьмі, былі перададзеныя ў менскі офіс.

Актывіст кампаніі "Гавары Праўду!" Ігар Маслоўскі патлумачыў, што тыя пытанні, якія не ўвайшлі ў "Народны рэферэндум", будуць дапрацаваныя на лакальным узроўні:

- Гэтыя пытанні застаюцца ў нас на кантролі. Многія тычацца лакальных праблем – гэта, напрыклад, будаўніцтва установаў аховы здароўя ці ўстановаў адукацыі, ці стан дарог. Гэта нашыя агульнагарадскія ці лакальныя кампаніі, якімі мы займаліся, зараз займаемся і будзем займацца. І мы людзям тлумачым, што гэта не агульнанацыянальныя пытанні, але з нашымі актывістамі ў рамках уласных кампаній у нашым горадзе будзем намагацца вырашыць гэтыя праблемы для людзей.

На рэспубліканскім узроўні ўжо сфармавана топ-дзесяць пытанняў, якія будуць вынесеныя на "Народны рэферэндум".

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19127#.UpOc1bVdXgg*

## У Берасці ўшанавалі памяць ахвяр палітычных рэпрэсій

Акцыю зладзілі прадстаўнікі берасцейскай абласной арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычный партыі (Грамада) разам з актывістамі кампаніі “Гавары Праўду!”. Яны ўсклалі кветкі на Трышынскіх могілках да помніка тым, хто пацярпеў ад рэпрэсій у савецкія часы. Адзін з арганізатараў акцыі Ігар Маслоўскі лічыць, што беларусам варта вывучыць урокі гісторыі:

- Толькі ў Беларусі пад палітычныя рэпрэсіі рознага ўзроўню падпала каля мільёна жыхароў нашай краіны. Кажуць, што гісторыя паўтараецца ў выглядзе фарсу. Тым не менш, гэты фарс нам дорага каштуе. Мы бачым, што палітычныя рэпрэсіі, на жаль, працягваюцца. Людзей звальняюць з працы, збіваюць на мірных акцыях пратэсту, пераследуюць крымінальнымі і адміністрацыйнымі справамі.

Актывісты ўшанавалі памяць рэпрэсаваных хвілінаю маўчання. Па выніках акцыі быў праведзены круглы стол.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19259#.UpOgtLVdXgg*

## Загінула праваабаронца Вікторыя Старасценка



30 кастрычніка ў Менску трагічна загінула 25-гадовая праваабаронца Вікторыя Старасценка, сябра праўлення грамадскага аб’яднання «Цэнтр па правах чалавека». Вікторыю збіў грузавік на пешаходным пераходзе. Дзяўчына пераходзіла праезную частку па нерэгуляваным пешаходным пераходзе, які абсталяваны адпаведнай дарожнай разметкай, знакамі і штучнай няроўнасцю, калі яе збіў грузавік, піша udf.by.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19280#.UpOg87VdXgg*

## Правы чалавека ў Беларусі абмеркавалі ў Радзе Еўропы

У Палітычным камітэце Рады Еўропы адбылося абмеркаванне сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Сярод дакладчыкаў - рэдактарка сайту "Хартыя-97" Наталля Радзіна.

Былая палітычная зняволеная распавяла ў сваім дакладзе пра сітуацыю з вязнямі сумлення, якіх цяпер у Беларусі - 11 чалавек. Яны падвяргаюцца жорсткаму ціску, пазбаўляюцца спатканняў, перадачаў, пасылак і медычнага абслугоўвання:

- Я заўважыла, што тыя палітзняволеныя, якія сёння выходзяць на волю ў выніку заканчэння тэрміну іх зняволення знаходзяцца пад жорсткім ціскам міліцыі і спецслужбаў, яны абмежаваныя ў сваіх палітычных і грамадзянскіх правах. Таксама мы бачым, што ў Беларусі з’явіліся новыя палітвязні - гэта і ксёндз Уладзіслаў Лазар, і актывіст Андрэй Гайдукоў. Характар абвінавачванняў супраць палітычных зняволеных робіцца ўсё больш пачварным - сёння іх абвінавачваюць і ў здрадзе Радзіме, і ў шпіянажы.

Таксама з дакладам выступіў беларускі палітолаг Алесь Лагвінец. Ужо з'явілася і першая рэакцыя Парламенцкага камітэту на гэтыя выступы: "Дыялог з рэжымам Лукашэнкі можа быць толькі на пэўных умовах", - гаворыцца ў заяве палітычнага камітэту. Найперш ідзе пра вызваленне палітычных вязняў і ўвядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне.

*http://www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=18355#.Uqn2tOdb_xg*

## Алесь Бяляцкі - прэтэндэнт на Нобелеўскую прэмію міру



Прэтэндэнтам на Нобелеўскую прэмію міру з'яўляецца зняволены кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі. «Такая прэмія ў руках беларуса дала б моцны штуршок для грамадзянскай

супольнасці ў Беларусі», - лічыць палітычны аглядальнік Валер Карбалевіч:

- Зразумела, што гэта б умацавала імідж, умацавала б дэмакратычную плынь, маральна падтрымала б дэмакратычныя сілы Беларусі. Безумоўна, гэта было б карысна для беларускай дэмакратыі.

Асуджаны за ўхіленне ад выплаты падаткаў кіраўнік праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесь Бяляцкі зарэгістраваны як кандыдат на атрыманне Нобелеўскай прэміі міру ў канцы студзеня. Акрамя дэпутатаў польскага парламента, пад заявай паставілі подпісы прадстаўнікі 27 краін-чальцоў Рады Еўропы.

*http://www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=18601#.Uqn35edb_xg*

## Гранітаўцы салідарныя з Юрыем Швяцом

Актывісты “гранітаўскай” суполкі незалежнага прафсаюза салідарныя з паплечнікамі на “Мазырскім НПЗ”. “Гранітаўцы” падтрымліваюць у змаганні Юрыя Швяца, старшыню суполкі незалежнага прафсаюза “Мазырскага НПЗ” і ягонага намесніка Васіля Альхоўскага. Прафсаюзнікі сёння прыпыняюць галадоўку ў знак пратэсту на дзеянні кіраўніцтва прадпрыемства, якое аказвае ціск на сяброў недзяржаўнага прафсаюза.

Пяць дзён галадоўкі далі першы вынік - прыцягнута ўвага грамадскай супольнасці і ўладаў да сітуацыі на “Мазырскім НПЗ”, адзначае ў сваім адкрытым звароце Юрый Швец.

Старшыня “гранітаўскай” суполкі незалежнага прафсаюза Алег Стахаевіч кажа, што ў сённяшніх умовах лепш дзеянне, чым дэмагогія:

- На мой погляд лепш нешта рабіць, чым сядзець склаўшы рукі. Хоць я пачуў шмат крытыкі ў адрас галадаючых прафсаюзнікаў, быццам гэта не метад барацьбы прафсаюзаў. Я не прыхільнік крытыкі. Я магу пагадзіцца толькі з крытыкай канструктыўнай. Жыццё такое, што калі нічога не рабіць, то і вынікаў ніякіх не будзе.

“Гранітаўцы” напісалі ліст-зварот да кіраўніцтва Мазырскага

НПЗ і дзяржаўных прафсаюзаў, у якім асуджаюць іх дзеянні, бо давялі сітуацыю да радыкальных умоў.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=18928#.Uqn6q-db_xg*

## Праваабарончы цэнтр “Вясна” падвёў вынікі тыдня супраць смяротнага пакарання

Зараз найлепшы час для адмены смяротнага пакарання ці ўвядзенння мараторыя на яго, лічыць намеснік кіраўніка праваабарончага цэнтра “Вясна” **Валянцін Стэфановіч**.

Узровень злачыннасці ў Беларусі нашмат меншы, чым у 90-ыя гады мінулага стагоддзя, калі праводзіўся рэферэндум 1996 года. На ім насельніцтва Беларусі, у прыватнасці, падтрымала захаванне смяротнага пакарання:

*- Колькасць смяротных прысудаў у год - 2-3 выпадкі, у 2012-ым годзе ўвогуле не выносіліся новыя. Наша грамадства знаходзіцца ў палоне ілюзій, што смяротнае пакаранне гарантыя іх бяспекі. Смяротнае пакаранне не з’яўляецца стрымліваючым фактарам, гэта абсалютна ўсім вядомая ісціна, гэта ўвогуле ні на што не ўплывае. Гэта проста помста, калі забіваюць забойцу, больш ніякага сэнсу ў гэтым няма.*

Па словах Валянціна Стэфановіча, хаця большасць насельніцтва краіны пакуль выступае за смяротнае пакаранне, але такія пытанні не вырашаюцца на рэферэндумах. Еўрапейскі досвед паказвае, што ў пэўныя моманты гісторыі кіраўніцтва краінаў могуць узяць на сябе адказнасць за непапулярныя рашэнні. Так, у некаторых краінах Еўразвяза смяротнае пакаранне было адмененна, хаця большасць насельніцтва выступала супраць гэтага, кажа Валянцін Стэфановіч.

* * *

Па словах каардынатара грамадскай кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання" **Андрэя Палуды**, адным з самых яскравых момантаў тыдня была анлайн прэзентацыя музычнага

праекта "Апошні золак".

*- Гэта праект выканаўцаў розных музычных стыляў і розных жыццёвых поглядаў, якія аб'ядналіся вакол адной тэмы. Спробам асэнсавання смяротнага пакарання ў сусветнай рок-культуры будзе прысвечаны выпуск падкаста “Рок – за правы чалавека”. Была прэзентавана інтэрнэт-старонка, дзе збіраецца ўся інфармацыя па гэтай набалелай праблеме. Праводзіліся ў Менску і іншых рэгіёнах розныя мерапрыемствы ў выглядзе дыскусій з раздачай інфармацыйных матэрыялаў.*

Таксама было пададзена шмат заявак на правядзенне пікетаў за адмену смяротнага пакарання. Але не адна з іх не была задаволена. Па словах Андрэя Палуды, тыдзень супраць смяротнага пакарання праводзіўся ўпершыню. Зараз прынята рашэнне, што ён стане штогадовым – да моманту, калі краіна пазбавіцца ад санкцыянаванага дзяржавай забойства. Зараз Беларусь застаецца апошняй у Еўропе, дзе выкарыстоўваецца пакаранне смерцю.



*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=18634#.Uqn7uedb_xg*

## Заўка на пікет ёсць, дамоваў з бальніцай, камунальнікамі і міліцыяй няма

Бярозаўскія праваабаронцы і грамадскія актывісты 10 лістапада збіраюцца пікетаваць у падтрымку палітычных вязняў. Яны ў чарговы раз падалі заяўку на пікет у раённы выканкам. Пікет запланаваны на дазволеным уладамі месцы – гарадскім стадыёне. Яго галоўная мэта – патрабаваць вызвалення Алеся Бяляцкага, Міколы Аўтуховіча, Міколы Статкевіча, Эдуарда Лобава ды іншых палітычных зняволеных.

Падрыхтоўка да пікету пачалася яшчэ месяц таму, кажа адзін з заяўнікаў Сяржук Русецкі:

- Месяц таму мы падалі заяўкі ў Бярозаўскі аддзел унутраных спраў, у вытворчае прадпрыемства “Бярозаўскае жыллёва-камунальная гаспадарка” і галоўнай лекарцы Цэнтральнай бярозаўскай бальніцы, у заяўках прасілі заключыць з намі дамовы на абслугоўванне пікета. Падалі ў месячны тэрмін, каб у гэтых установах быў час заключыць, калі пажадаюць, з намі такія дамовы.

Бярозаўскі раённы выканкам двойчы за апошнія 3 месяцы адмовіў актывістам у правядзенні пікетаў па той самай прычыне: адсутнасць дамоваў з бальніцай, камунальнікамі і міліцыяй, якія павінны абслугоўваць такое мерапрыемства. Але заключыць такія дамовы практычна немагчыма.

Заўка на пікет ёсць, дамоваў з бальніцай, камунальнікамі і міліцыяй няма

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19090#.UqoDu-db_xg*

## У Мікашэвічах наладзілі круглы стол, прысвечаны праблемам працы і заробкаў

У Мікашэвічах актывісты грамадзянскай кампаніі “Гавары Праўду” і актывісты Беларускага Незалежнага Прафсаюзу правялі круглы стол. Мерапрыемства было прымеркавана да Сусветнага дню людзей за годныя ўмовы працы.

Чалец “гранітаўскай” суполкі Беларускага Незалежнага Прафсаюзу Леанід Дубаносаў кажа, што сітуацыя ў Мікашэвічах з заробкамі складаная:

- На “Граніце” заробкі някепскі. Людзі з “Граніту” дзяцей сваіх

аддаюць у школы, а настаўнікі атрымліваюць мала. Таксама людзі прыходзяць у бальніцу, а ўрачы атрымліваюць таксама мала. Мы абмяркоўвалі сёння гэтае пытанне. І пражыццёвы мінімум таксама абмяркоўвалі. У нас гэта, здаецца, адзін мільён 250 тысяч рублёў. Гэта на аднаго чалавека, а павінна каб хапала на мінімальную сям'ю – на жонку і дзіця.

Актывісты адзначаюць, што ў такіх маленькіх гарадах, як Мікашэвічы, большасць працаздольнага насельніцтва выязджае на заробкі ў суседнюю Расею, бо не згодныя з аплатаю і лічаць яе прыніжальнай.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=18506#.UqoIKOdb_xg*

## Павел Бандзіч:
## Гэтага ў Беларусі проста не павінна быць

326 чалавек былі прысуджаныя да смяротнага пакарання ў Беларусі з 1990 па 2011 год. Такія звесткі па прысудах, якія ўступілі ў законную сілу, прадаставіла Міністэрства юстыцыі. Летась беларускія суды не выносілі смяротных прысудаў, а ў гэтым годзе да вышэйшай меры пакарання прысудзілі трох чалавек. У Еўропе толькі Беларусь практыкуе смяротнае пакаранне.

Як лічыць акцёр і рэжысёр Павел Бандзіч, чалавек не можа вырашаць пытанні жыцця і смерці:

- Смяротнае пакаранне не павінна быць у Беларусі. Таму што справядлівасць па-беларуску - для нас гэта выклікае толькі ўсмешку. Таму гэтага не павінна быць. Для мяне гэта важна. Толькі прырода мае права нас пазбаўляць жыцця. Яна нас выпускае на гэты свет і толькі яна кантралюе даўжыню нашага жыцця.

Беларускія праваабаронцы заклікаюць падпісваць у інтэрнэце петыцыю супраць смяротнага пакарання. «Мы лічым, што жыццё з'яўляецца найвышэйшай каштоўнасцю, натуральным і неад'емным правам чалавека. Смяротнае пакаранне мы расцэньваем як парушэнне права на жыццё, гарантаванае Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і міжнароднымі дамовамі ў галіне правоў чалавека», - гаворыцца ў петыцыі, якую падпісалі ўжо больш за 15 тысяч чалавек.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=18608#.UqoHc-db_xg*

# На Берасцейшчыне ўзгадваюць трагічныя падзеі



71 год таму нацысты правялі акцыю па ліквідацыі Берасцейскага і Пінскага гета. Фашыстамі было забіта каля 50 тысяч габрэяў. У гэтыя дні родзічы ахвяр, прадстаўнікі габрэйскай абшчыны і грамадскай супольнасці наведваюць месцы масавых катаванняў, праводзяць вечары памяці, каб падкрэсліць, што злачынствы супраць чалавека ніколі не забываюцца.

Старшыня Брэсцкага абласнога клубу нацыянальных культур "Садружнасць" Барыс Брук адзначае, што галоўнае - захаванне фактаў, якія пакінулі сведкі злачынства:

- Перш за ўсё - захаванне сведчанняў людзей, якія на ўласныя вочы бачылі тое, што рабілі тут фашысты з габрэямі – здзекі, расстрэлы, знішчэнне рознымі спосабамі. Для таго, каб данесці сутнасць Халакоста.

У апошнія гады неанацысцкія праяўленні на Берасцейшчыне гучаць усё часцей. Зусім нядаўна ў Пінску невядомыя размалявалі фашыстоўскай свастыкай помнік ахвярам Пінскага гета. Праваахоўныя органы працягваюць пошукі злачынцаў.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19101#.UqoE4edb_xg*

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»